## Лукашенко взял тайм-аут, чтобы еще раз обдумать порядок своих действий

Запланированное на 9 июля совещание у президента Александра Лукашенко по результатам работы специальной комиссии, которая изучала негативные явления в белорусской экономике, не состоялось.

В пресс-службе главы государства сообщили, что итоги работы комиссии уже были доложены Александру Лукашенко в рабочем порядке в начале нынешней недели. Президент поручил комиссии продолжить работу и повторно проинформировать его о результатах примерно через месяц.

Из всего этого ясно одно — комиссии Николая Домашкевича требуется дополнительное время на продолжение расследования. То ли негативных проблем слишком много, то ли президент пока не решил, как поступать дальше. На языке спорта, которым так страстно увлекается президент Республики Беларусь и Национального олимпийского комитета, ситуация оценивается так: нужно брать тайм-аут, или, говоря попроще, перерыв. Что главный "спортсмен" и сделал.

**Владимир ГЛОД.**

**Дзікунства!**

## Лісты з-за кратаў Аляксея Шыдлоўскага ахова рве толькі таму, што напісаны яны на беларускай мове. Адной з дзяржаўных...

Тры тыдні таму Аляксея Шыдлоўскага, які знаходзіцца за кратамі, адбываючы тэрмін за малюнкі і пісьмовыя заклікі на сценах дамоў у Стоўбцах, што ўспрымаліся ў адмоўным стаўленні да палітыкі кіраўніка дзяржавы, наведала адвакат Л.Лунёва. У Любові Аляксееўны быў свой, прафесійны інтарэс: даведацца, як паводзіць сябе "палітычны" вязень Шыдлоўскі, ці не настаў час паставіць пытанне аб яго умоўна-датэрміновым вызваленні. І, як заўважыў адвакату атрадны ў калоніі, у яе падабароннага прыкладныя паводзіны.

Па правілах, што існуюць у месцах, як кажуць, не дужа аддаленых, калі арыштаваны на працягу некалькіх тыдняў запар паводзіць сябе без заўваг з боку наглядчыкаў, яму прадастаўляецца падоўжанае спатканне з роднымі і нават перадача аж на 16 кг. Менавіта на такі падыход і разлічваў Аляксей Шыдлоўскі, калі яго наведала маці. Аднак перадачу ўзяць асабіста яму забаранілі, а на пасылцы ахова і ўвогуле напісала пахабнае слова з "тых самых" трох літар...

Аляксея, а яшчэ больш маці, такая разбэшчанасць узброенай варты і ўвогуле здзівіла. Бо Шыдлоўскі-малодшы, які адбывае тэрмін у папраўча-працоўнай калоніі за "здольнасць да рэзюме", падобнага сабе ніколі не дазваляў. А тут, лічы, выхавацелі — і ў дадатак "такое" пішуць.

Кранула маці вязня Шыдлоўскага і тое, што яна не магла перадаць сыну лісты ад сяброў, як і ён сябрам. Бо наглядчыкі, каб не абцяжарваць сябе чытаннем на роднай мове, пачалі рваць іх у шматкі: маўляў, "не выкалывайся". Адзін беларус тут знайшоўся...

Пасля візіту маці ў калонію зноў наведалася адвакат. Але сустрэцца з намеснікам начальніка па выхаваўчай рабоце Юрыем Жогалем не мела магчымасці, бо той у свой прыёмны час адсутнічаў. Начальнік аддзялення па выхаваўчай рабоце Аляксандр Кашырын вярнуўся з водпуска і быў канешне ж "не ў курсе", як і іншыя выхавацелі. Таму прадстаўніцы Праваабарончага цэнтра "Вясна-96" Любові Лунёвай трэба было прыкласці шмат намаганняў, каб высветліць сутнасць справы.

Як падаецца многім выхавацелям калоніі, ніхто Шыдлоўскага датэрмінова, нават і ўмоўна, вызваляць не збіраецца, бо ён глыбока не раскаяўся, аб чым сведчыць, маўляў, яго ліст на волю (надрукаваны, дарэчы, у "Народнай волі"). Але адваката Лунёву, як і нас, газетчыкаў, турбуе іншае: няўжо нахабства сыдзе з рук службовым асобам калоніі? Ці такія ахоўнікі ды наглядчыкі патрэбны?

**Віктар СВІРКО.**

## У пасажыраў мінскага метро з'явілася свая "падземная" газета

Следам за маскоўскай падземкай цяпер і мінскае метро можа прэтэндаваць на званне самага чытаючага ў свеце. Раз у тыдзень — па чацвяргах — яго пасажыры сумаваць у поездзе не будуць. Менавіта ў гэты дзень на ўсіх станцыях можна бясплатна атрымаць газету "Метро Мінск". Прычым тыраж яе даволі вялікі — 100 тысяч экземпляраў.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў выдавецка-вытворчай фірме "Справа (Усход + Захад)", якая з'яўляецца выдаўцом штотыднёвіка, ён разлічаны на самыя розныя густы і прыхільнасці чытачоў. Тут шмат інфармацыі, публікуюцца "праблемныя" матэрыялы на актуальныя тэмы, інтэрв'ю, тэлепраграма, карысныя парады, анекдоты і красворды. Праўда, зачытаўшыся, можна і сваю станцыю праехаць...

Дарэчы, у новага мінскага выдання ёсць у Маскве "старэйшая сястра" — "Газета Метро", якую выпускае аднайменнае адкрытае акцыянернае таварыства. Яно ж стала заснавальнікам і нашай "падземнай" газеты.

**Віктар КУКЛОЎ, БелТА.**

## Наталля Качаткова марыць сыграць клоуна. Абавязкова вясёлага

Нядаўна заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля Качаткова адзначыла свой юбілей. Зразумела, не трэба дакладна вызначаць, колькі ёй "стукнула" гадоў. Жанчыне, як вядома, столькі год, на колькі яна сябе адчувае. А адчувае сябе Наталля Георгіеўна вельмі маладой. Нават так і гаворыць: "Усё яшчэ толькі пачынаецца..." І гэта пры тым, што працуе яна ў тэатры каля трыццаці год, а калі дакладней — дваццаць сем!

З самага дзяцінства Наталля жыла ў тэатры. Яе бацькі былі акцёрамі, а маленькая дачка, зразумела, шмат часу бавіла побач з імі. Яна з маленства ведала тэатр з усёй ягонай "кухняй", таму ўсялякія тэатральныя сюрпрызы не былі для яе нечаканымі. Жаданне стаць актрысай узнікла напачатку школы. Усе непрыемнасці, звязаныя з тэатрам, здавалася, яна ўжо ведала — на прыкладзе сваіх бацькоў бачыла, як цяжка асэнсоўваць акцёру, што ён не прызначаны на нейкую з роляў.

У інстытут паступала сама, без усялякай дапамогі з боку бацькоў — тыя ў гэты час былі на гастролях. Аднак, нягледзячы на суровую прыёмную камісію — Арлоў, Маланкін, Бутакоў, — Наталля Качаткова стала студэнткай Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Тут жа і пачаліся яе першыя праблемы. Наталля адчувала, што большасць выкладчыкаў і студэнтаў успрымае яе як дачку акцёра Качаткова. Кожная роля была для яе экзаменам на выжыванне — яна хацела ўсім даказаць, што сама мае неблагія здольнасці... Словам, у яе тэатральным лёсе было ўсё — і поспехі, і часы незапатрабаванасці... Але Наталля Георгіеўна пафіласофску спакойна адносіцца да розных творчых складанасцей. Напэўна, сказваецца не толькі доўгі час працы ў тэатры, але і дзіцячая "закалка".

Сёння Наталлю Качаткову ведаюць як актрысу, якая іграе ў такіх знакамітых спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, як "Памінальная малітва", "Тутэйшыя", "Ажаніцца — не журыцца". Зараз яна марыць сыграць клоуна... Абавязкова вясёлага...

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Демократия по-белорусски**

## Огненный порыв адвоката Филипченко даже не всколыхнул новополоцкую "вертикаль". Его подзащитную они все равно осудили

Алексей Филипченко, совершивший 8 июля в знак протеста против преследования его подзащитной Антонины Вороновой акт самосожжения, находится в реанимационном отделении Новополоцкой больницы. У него обгорело 70 процентов кожного покрова, что соответствует третьей степени ожога (всех степеней — четыре). Прибывший для консультации специалист из Витебска подтвердил невозможность транспортировки пострадавшего, поскольку тот при перевозке может умереть. Но и так, по заявлению врачей, шансы выжить у Филипченко минимальные. Ведь барокамеры в городской больнице нет.

Однако даже смертельно-отчаянный поступок адвоката не поколебал намерение местной "вертикали" расправиться с заслуженным строителем республики Антониной Вороновой. 9 июля судья Новополоцкого суда И.Сухотская вынесла постановление о наложении полумиллионного штрафа на неугодную властям пенсионерку.

При этом Ирина Сухотская совершила антиконституционное деяние — противодействовала оказанию правовой помощи обвиняемой в административном правонарушении. Судья не позволила присутствовать на процессе представителю А.Вороновой Леониду Сапронецкому, чем грубейшим образом нарушила статью 62 Конституции Республики Беларусь.

Однако Антонина Воронова сдаваться на собирается. Не пугает ее и угроза судьи на следующем процессе отправить под арест на 15 суток. Антонина Владимировна готова совершить еще более отчаянный акт, чем ее защитник Алексей Филипченко.

Только вот остановит ли это новополоцкую "вертикаль"?

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва по 74-му Полоцкому избирательному округу.**

**Пленэр**

## Витебские дни Марка Шагала

В Витебске завершились VIII Международные Шагаловские дни. Их участники приняли участие в Шагаловских чтениях, в открытии выставки "Дары музею М.Шагала", пленэре юных художников, открытии памятника "Скрипка Шагала" и литературно-музыкальном вечере "В гостях у Марка и Беллы".

**На снимке:** *во время открытия памятника.*

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

**Спасибо!**

## Единственный в Беларуси дневной стационар. Здесь лечит всё

Как любой постсоветский человек, вкусивший все "прелести" отечественного здравоохранения, я испытываю панический страх перед нашими больницами. Но обстоятельства сложились так, что пришлось-таки стать пациентом 9-й столичной клиники. Пройдя круги ада районной поликлиники, я ожидала продолжения и здесь. Но когда переступила порог дневного стационара 1-го неврологического отделения этой клиники... Признаюсь честно, на руках у меня было простое направление из поликлиники, а в душе — уверенность, что без блата или бесплатно хорошо лечиться нельзя. Все, что происходило со мной дальше, напоминало какой-то медицинский рай. Меня направили в одноместную палату с красивой большой деревянной кроватью и зеркальным шкафом, отдельным туалетом и умывальником. Возле окна стоял красивый современный столик с двумя стульями, на нем — графин с минеральной водой. На окне — вертикальные жалюзи. В коридоре — красивые диваны, композиции из искусственных цветов. Сказочной оказалась не только внешняя сторона... Весь медперсонал излучал столько улыбок и доброжелательности, что поневоле я задалась вопросом: "А может, у меня есть тайный влиятельный благодетель, спустивший сверху указание относиться ко мне с особым вниманием, или здесь все поклонники "Народной воли" и ублажают приболевшего журналиста?"

Сказка продолжалась все две недели моего пребывания в дневном стационаре 1-й неврологии — я находилась в медицинском раю, где были в наличии все лекарства, не было очередей, грубого или безразличного тона. И режим пребывания был очень удобный — как и все больные, я приходила рано утром и уходила домой во второй половине дня.

Настало время приоткрыть завесу и рассказать изумленному читателю о том, что же такое дневной стационар 1-го неврологического отделения 9-й городской больницы города Минска. Но уже не с точки зрения рядового пациента, а из уст заведующей отделением **Ольги Анатольевны БУЗУЕВОЙ**.

— Это единственный в Беларуси научно-экспериментальный дневной стационар. В этом статусе мы существуем уже два года. А саму систему дневных стационаров разработало Министерство здравоохранения. Первоначально — в целях рационального использования средств, отпускаемых на здравоохранение. Но позже мы увидели, что в дневных стационарах есть большой смысл. У больных не возникает синдрома госпитализации, как это часто бывает. У нас нет социальных коек, когда больные прячутся от своих проблем в больнице. У нас не санаторно-курортное лечение, а активное восстановительно-профилактическое лечение.

**— На недавнем съезде врачей как раз и говорилось о развитии в Беларуси дневных стационаров...**

— В докладе министра здравоохранения И.Б.Зеленкевича был сделан акцент на одну из форм оказания медицинской помощи через сеть дневных стационаров. Не секрет, что в последнее время медицинские койки дорогостоящие. И необоснованно расширены показания для госпитализации. И больные, которые нуждаются в проведении поддерживающей курсовой терапии, госпитализируются круглосуточно. Полдня они получают лечение, а начиная с двух часов — гостиничные услуги: отдых, питание и нахождение в ночное время. А это все — большие суммы бюджетных денег.

70% больных сейчас можно переводить на пребывание в дневное время. И не только в неврологии. Такой же опыт могут использовать и хирургические отделения, например, при подготовке к операции или после нее.

**— Но дневные койки есть и в обычных стационарах...**

— Их около 15—20% в отделении, но опыт работы показал, что очень сложно их оптимально использовать. В обычные отделения больные госпитализируются с неохотой. Нередко там большую часть времени больной находится наедине со своей болезнью, а медицинский персонал обычно занят тяжелобольными, которых всегда достаточно в клинике. А в дневном стационаре "маршрут" больного отработан до минут, естественно, включая отдых после каждой процедуры. У нас пациенты не ждут в очередях, не нервничают, не просят таблеток, не ждут очередного укола или процедуры.

При создании мы поставили вопрос перед администрацией больницы и комитетом здравоохранения о том, что больной не должен ездить к нам двумя видами транспорта за одной таблеткой или банальной физиопроцедурой, которую можно получить в своей поликлинике по месту жительства. У нас должна быть активная эффективная системная терапия и все необходимые обследования.

В дневном стационаре в первый же день больной получает практически весь необходимый минимум обследования и лечения. На следующий день назначается активная курсовая терапия. Больные получают по 4—5 процедур, 90% больных назначают массаж, иглорефлексотерапию (по показаниям), внутривенные, внутримышечные инъекции и капельницы.

**— Как единственный в Беларуси дневной стационар, вы являетесь моделью для создания дневных стационаров на базе многопрофильных больниц.**

— И не только. Это единственное в Беларуси отделение, на базе которого отрабатывается программа по ранней профилактике ишемических инсультов. В последнее время их количество очень выросло, инсульты "помолодели". Если раньше это был удел семидесятилетних, то сейчас это болезнь сорока-пятидесятилетних. И если мы сейчас не прокричим сигнал SOS, у нас в стране вырастет инвалидность по этому заболеванию...

**— Удивительно, но у вас все врачи, медсестры очень доброжелательны и всегда улыбаются. Это определенное условие при приеме на работу?**

— Нашим сестрам часто задают вопрос: "А за улыбки вам по особой ведомости доплачивают?" Конечно же нет, у них заработная плата такая же, как и в других отделениях. Но у нас пациент находится в благоприятном климате — с ним разговаривают очень спокойно, с желанием помочь. Когда-то при приеме в медицинские вузы обращали внимание и на внешний вид будущего врачевателя. Потому что врач должен лечить и своей внешностью. Все, от взгляда до одежды, должно помогать. Ведь к врачу приходят пациенты, уставшие от всего, идут как на исповедь, и они должны получить от доктора помощь, поддержку, совет.

**— Но согласитесь, вы рисуете нечто идеальное. В действительности же все далеко не так. И тому есть немало причин — невысокая зарплата, большие нагрузки, дефицит лекарств...**

— Сейчас отношение к медикам несколько пренебрежительное. И во многом в этом виноваты и сами медики, и сама структура оказания медицинской помощи. Из любого мелкого вопроса наши медики умеют раздуть большую проблему. А пациенты мучаются, чтобы ее разрешить. Сидят в очередях, приходят за талончиком в пять утра, берут его на месяц вперед к узкому специалисту. А когда, пройдя муки ада поликлиники, пациенты приходят к нам, то видят здесь совсем другое отношение. У нас не только четко исполняются все назначения, но и сама обстановка отделения лечит. И в этом нет ничего удивительного, ведь так и должно быть. И если медиком движет только материальная сторона, ему не место в этой профессии.

И на сегодняшний день, как бы я ни устала, как бы тяжело ни было, для меня всегда самой большой наградой являются слова: "Спасибо, вы мне очень помогли"...

**Анна СОУСЬ.**

## Першы ў рэспубліцы будаўнічы рынак пачне работу ў канцы ліпеня

Першы ў Беларусі спецыялізаваны рынак будаўнічых матэрыялаў пачне работу ў сталічным мікрараёне Уручча. Цырымонія адкрыцця намечана на 24 ліпеня. Асноўныя работы па добраўпарадкаванні рынку ўзяла на сябе кампанія "РАБТЭМ" (Рынак аддзелачных, будаўнічых і электратэхнічных матэрыялаў). Цяпер арэндныя дагаворы з кампаніяй заключылі каля 70 беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый. Пры гэтым перагаворы аб супрацоўніцтве вядуцца яшчэ з 500-мі фірмамі з нашай краіны, Польшчы, Расіі, Грэцыі, Іспаніі і Турцыі.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БелТА.**

**Чорны гумар**

## Радыёвішчанне перабудоўваецца!

**Вядучы.** Пачынаем перадачу "Для тых, у каго не ўсе дома". Вітаем, сардэчна вітаем вас, сябры! Мы, супрацоўнікі радыё, рашуча перабудаваліся ў рабоце. І, як паказвае апытанне, правільна зрабілі! Больш бадзёрасці і аптымізму! Жыць становіцца лепш, жыць становіцца весялей! Сваімі перадачамі мы пастараемся і вам падвысіць настрой. Слухайце нас кожны дзень у абедзенны перапынак на ўсіх хвалях! Прабачце, тэлефонны званок! Гэта просіцца на сувязь па сваім пейджары наш спецыяльны карэспандэнт Анатіён Губа-Шлёпаў, які толькі што вылецеў на верталёце нашай радыёкампаніі на месца невялікай аўтакатастрофы. Антоша, ты ў прамым эфіры! Мы слухаем цябе, даражэнькі!

**Губа-Шлёпаў.** Так, так, спадары-таварышы! Катастрофа не отчань вялікая. У аўтафургонемаразільніку, што ляжыць дагары ў кювеце, яшчэ дрыгаюць ногі... э-э, прабачце, круцяцца колы. Вакол — скопішча машын, гэта астанавіліся не проста цікаўныя, так змусіла зраіць вадзіцеляў і пасажыраў іх добрае сэрца. З раскрытых дзявярэй ззаду фургона насыпалася цэлая гара ружовых апельсінаў, мы тут і спусціліся. Каля гэтай гары натоўп астанавіўшыхся, усе смакуюць апельсіны, хваляць тавар, а сёйтой запіхвае гэтае аранжавае дабро ў кішэні і торбачкі. Ваісціну, нету худога без добрага. Твары ва ўсіх свецяцца дабрынёй і спагадай — цудоўная рыса нашага менталітэту! Я лупіны ад апельсінаў не выкідваю, не засмечваю экалогію, я хаваю іх у кішэню — спатрэбяцца дома на цэдру... А цяпер пасяшаемся да легкавой машыны-інамаркі... Ляжыць на ўзбочыне дарогі на баку, крыху памятая. Яе разрэзваюць аўтагенам, каб дастаць шафёра. Пасажыраў гэтай машыны ўжо запіхваюць ў "скорыя помашчы", павязуць каго ў бальніцы, каго ў морг. Ва ўсіх твары спакойныя, добрыя, я сказаў бы — рахманыя. "Як вам працуецца?" — гэта я пытаюся ў аўтагеншчыка.

**Аўтагеншчык.** Мне пашанцавала, да гэтага я паўгода хадзіў у беспрацоўных. Пажаданне адно.. Не — лепш два! Каб працы было больш, мы сваіх мазоляў не пашкадуем. Другое... Магутнасць аўтагенаў нашым канструктарам трэба павялічваць, бо сталь у машынах агліцкая, паддаецца рэзанню цяжка.

**Губа-Шлёпаў.** А вось шафёру іншамаркі пашанцавала менш. Яго ўжо можна дастаць, хаця і па частках. Да той часткі, што з галавою, я і абрашчаюсь з пытаннем: "Як ваша прозвішча, калі ласка?".

**Шафёр.** Бутылёнак... Гаўрыла.

**Губа-Шлёпаў.** Как вы сібя чуйствуеце?

**Шафёр.** Нарма... Ды... хаю...

**Губа-Шлёпаў.** Думаю, што вы на дасцігнутым не астановіцеся. Хутка ў вас будзет новая іншамарка. Віншуем вас з будучаю пакупкаю! Якую песню вы хацелі б паслухаць? Вы міня слышыце? Гм, гм... Паважаныя радыёслухачы! Просім прабачэння... Частку цела з галавою ўжо панеслі, засталася ніжняя. Мы і звяртаемся да ніжняй... Вам, спадар Бутылёнак Гаўрыла, мабыць, будзе прыемна паслухаць песню пра рамантычную прафесію шафёраў. Папросім студыю ўключыць запіс!

**Вядучы.** Нам думаецца, што і будучым шафёрам і тым, што сёння ў дарозе, таксама будзе да душы такая песня!

(Гучыць песня "А путь твой далек и долог, и нельзя повернуть назад!")

**Вядучы.** Працягваем сваю работу. За мінулы тыдзень у рэспубліцы адбылося 57 пажараў. Агнём знішчаны кароўнік з каровамі, свінарнік са свіннямі і парасятамі, збожжасховішча, сем адзінак сельгастэхнікі, дзесяць індывідуальных дамоў. У агні загінула чатыры чалавекі, у тым ліку пяцігадовы хлопчык. Панесеныя страты невялікія, усяго на нейкіх два трыльёны рублёў. Але грошы што — глупства. Калі сёння няма — заўтра надрукуюць. Крыху прыкра, што гінуць зусім непавінныя людзі, наша асноўнае багацце. Наш карэспандэнт Андрон Умалішэўскі перадае з вёскі Сяміхатка, што ў Хамутоўскім раёне.

**Умалішэўскі.** Паважаныя і радыя слухачы. Вы рады зноў пачуць мой жыццярадасны голас... На месца пажару я прыбыў яшчэ за гадзіну да пажару. Вось такі я чалавек... Вядома ж, давялося прабавіць крыху часу ў мясцовай краме з напоямі. Яшчэ раз пераканаўся, як хораша і весела, з песнямі жывуць тут людзі! Але вось і пажар, дзякуй Богу, дачакаўся... Ай-яй-яй, ад хаты засталіся адны галавешкі, яны яшчэ нават дымяцца. Дзякуй раённым пажарным! З агаркаў, якія яны паспелі патушыць, можна будзе нарыхтаваць дроў на ўсю зіму. Пад плотам бачу рахманую, прыемна азызлую жанчыну з двума дзецьмі, каторыя ёсць амаль голыя... Іх можна зразумець! Горача сёння, сонца так і смаліць, так і смаліць... У цяньку, пад плотам вельмі прыемна пасядзець. Як ваша прозвішча, прыгажуня цётачка?

**Цётачка.** Апівуца...ік! Ганна...ік!.. Петрапаўлаўна.

**Умалішэўскі.** Усё згарэла?

**Цётачка.** Усё!.. Ік!.. І муж... Дзяцей паспела выхапіць.

**Умалішэўскі.** А як усё здарылася?

**Цётачка.** Проста... Заснуў мужык п'яны... з цыгаркаю ў пасцелі.

**Умалішэўскі.** Дзетачкі, а вы што скажаце дзядзю? Сюды во гаварыце, у мікрафон.

**Дзеці.** Мы такія радыя: усе пацукі і мышы пагарэлі. Мы іх так баяліся — горш за тату!

**Умалішэўскі.** Віншую вас усіх... Э-э... Пардоньце, спачуваю вам усім. У вашым становішчы, каб паставіць на месца стрэс, вельмі карысна і прыемна будзе адцягнуцца і паслухаць добрую песню.

**Вядучы.** Памехі ў эфіры, мы не пачулі адказу шаноўнае Ганны Петрапаўлаўны. Каб патрапіць вашаму густу, паслухайце нават дзве!

(Гучаць упярэмешку, нібы абняліся на падпітку, дзве песні: "И пить будем, и гулять будем, а смерть придет — помирать будем!" — "Час такі і век такі — піце піва, мужыкі!")

**Вядучы.** Рэспубліка наша квітнее і будуецца. Нядаўна ва ўрачыстай абстаноўцы паблізу сталіцы быў адкрыты першы ў рэспубліцы хоспіс. Даруйце, дарагія слухачы, што наша мова засмечваецца іншастраншчынай. Хоспіс — здаецца, з японскіх двух слоў: хочу піва... Але не будзем адцягваць вашу ўвагу на дробязі. Лепш паслухаем рэпартаж з гэтай урачыстасці. На сувязі наша спецкарэспандэнтка Сюсюзяна Кураедава.

**Кураедава.** Ад замілаванасці мне хацелася б весці свой сённяшні рэпартаж, распяваючы, як гэта робяць у операх. Або вершамі... Але я не спявачка і не паэтэска, я насмелюся толькі агалосіць маю пяшчотную пераробку з Маякоўскга: "Я знаю — будзе горад, і сад будзе цвісці, калі старыя й хворыя свой дом змаглі знайсці!" Так! З'явіўся ўжо свой дом у безнадзейна хворых і старэнькіх-нямоглых! Іхнім бліжэйшым сваякам з-за шчырай працы на карысць сабе і Радзіме, з-за ўшчыльненага рытму жыцця няма калі паклапаціцца пра тых, хто гасцюе на зямлі апошнія свае дзянькі-дзянёчкі. Пакуль распачаліся ўрачыстасці, я паспела крыху пагаварыць з дырэктаркай дома-хоспіса Ружай Барысаўнай Берышвілі-Мацюк. Яна сказала:

**Дырэктарка.** Нашы безнадзейна хворыя і знямоглыя старыя паміраюць у цяпле і доглядзе. Кормім іх па ўзмоцненай праграме, не шкадуем спісваць на іх прадукты.

**Кураедава.** Можа, з'явіліся ўжо спонсары, фундатары ў вашага дома?

**Дырэктарка.** О, так! Першы адгукнуўся Дуралюбаў Еван. У яго здадзеная пад распіску маці. На яго грашовую дапамогу мы нядаўна купілі оптам дваццаць дамавін.

**Кураедава.** Прабачце, злыя языкі распускаюць плёткі, што быццам з-за гэтага ў вашым доме адбыўся ледзь не бунт?

**Дырэктарка.** Іменна — злыя языкі. Іменна — плёткі. Але бунт быў: адзін стары адмовіўся піць кампот, бо ў яго шклянцы было на тры ізюмінкі менш, чым у суседа.

**Кураедава.** Дзякуй вам, Ружа Барысаўна, за такія мацярынскія клопаты. Бо яшчэ невядома, мо і нам давядзецца дажываць свой век у гэтым доме. А цяпер пярэйдзем непасрэдна да ўрачыстасці... Яна прайшла весела і натхнёна. Стужку ля дзвярэй перарэзаў сам мэр бліжэйшага пасёлка, ля якога размешчаны крэматорый. З прамовамі выступалі і мэр, і дырэктар дома, і загадчыца сталовай дома-хоспіса. А ў час урачыстага банкета выступіў шырока вядомы ў ваколіцах бард Афінагеня Бардадым, які пад гітару і прытанцоўкі мілагучна прахрыпеў некалькі песенак, і ўсе яны прагучалі жыццясцвярджальна. Затым усе з захапленнем праслухалі выступленне аркестра з пацыентаў. Ён натхнёна выканаў малавядомы твор Іягана Баха-сына "Паміраць — дык з музыкай!". Я слухала пранікнёныя гукі і расчульвалася да слёз. Якія таленавітыя нашы людзі! Колькі іх і дзе ляжыць! Якія здатна на ўсякія выдумкі наш народ! Напрыклад, двое старых трымаюць гелікон, трэці дзьме ў гэтую шырачэнную, разяватую трубу, чацвёрты перабірае клавішы-"гузікі" — а ў выніку музыка, класіка. Потым аркестр выканаў песню "Апошні нынешні дзянёчак гуляю з вамі я, друззя!", якая плаўна перайшла да мажорнай, заліхвацкай беларускай полечкі-трасухі. Яна нават і паўмёртвых падняла на ногі — пусціліся ў скокі. Адна закаханая пара дзевяностагадовых тут жа павезла на каляcачках заяву мэру, каб зарэгістраваў іх шлюб. Гулянка закончылася пад раніцу, калі пацыенты даўно ўжо спалі мярцвецкім сном.

**Вядучы.** Так, так, дарагія радыёслухачы! Як тут не расчуліцца! Праўду пісаў вялікі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі: любоў перамагае смерць... Наша перадача падыходзіць к канцу. Але ў заключэнне хочацца хоць два словы сказаць пра нашу пошту. Яна вельмі багатая, на нашу перадачу прыходзіць шмат пісем і просьбаў з падзякамі і ўхваламі. Вельмі цёплае пісьмо, напрыклад, мы атрымалі ад пятай жонкі грамадзяніна Сяміпсова Стругайлы Жыўковіча. Жонка просіць перадаць прывітанне трэцяй і чацвёртай жонкам Сяміпсова, што знаходзяцца ў тым, памянёным ужо намі, домехоспісе. Завуць іх Таіса і Раіса. Пятая жонка Сяміпсова піша: "Праспявайце для іх беларускую песню, забыла, як называецца, але ў ёй ёсць такія радкі: "А раўнівы муж вёў жонку тапіць..." Вельмі шкада, паважаная пятая жонка Сяміпсова, што вы не напісалі, як вас завуць. Тым не менш просьбу вашу выконваем. Нам зразумела ваша гора і спачуванне да тае песеннае жонкі, якую вялі тапіць, а яна "плакала шчэ й прасілася: "Не тапі мяне рана звечара, а тапі мяне ночкай цёмнаю: людзі будуць спаць, меней будуць знаць".

*(Гучыць заказаная песня)*

**Вядучы.** На гэтым наша перадача закончана. Праз хвіліну слухайце інфармацыйную праграму "Брэха дня".

**Паўлюсь КАШАПЁТАЎ.**

**На заметку**

## За безопасность женщин

По данным МВД Беларуси, ежегодно десятки тысяч женщин страдают от преступлений — становятся жертвами убийств, получают тяжкие телесные повреждения, подвергаются изнасилованиям. Следует отметить, что общее количество пострадавших женщин значительно выше, поскольку официальная статистика отражает далеко не все случаи насилия, особенно в семье.

И все же статистика выявила тенденцию роста числа женщин, ставших жертвами сексуального насилия: изнасилований, убийств на сексуальной почве, принуждения к проституции, сексуального преследования на рабочем месте и в учебных заведениях, в семье. Приобрела актуальность в Беларуси и проблема торговли женщинами. А нынешняя кризисная ситуация в белорусском обществе еще больше обострила существующие конфликты и порождает новые. Насилие становится привычным способом разрешения конфликтов как в семье, так и в обществе.

Общественная организация "Женское христианско-демократическое движение" организовала консультационную службу для женщин, переживших насилие. В рамках работы Женского образовательно-консультационного центра ведется запись на прием к консультантам, которые оказывают психологические и юридические услуги жертвам насилия.

Пострадавшие могут позвонить по телефону **272-20-98 в понедельник и четверг с 10 до 12 часов** и записаться на прием к психологу и юристу. Консультации проводятся бесплатно, анонимность гарантируется.

**Людмила ПЕТИНА, директор Женского образовательно-консультационного центра.**

**Шчыра**

## ...Дзеля гэтага і трэба жыць!

У мяне трое ўжо дарослых сыноў. Старэйшаму нядаўна стукнула 28, сярэдняму ідзе 27-мы год і малодшаму — 21. Хлопцы як хлопцы, нічым не адрозніваюцца ад іншых, усе працуюць. Двое з іх маюць сваіх дзяцей.

Не асабліва яны засмучаюць нас, бацькоў, хоць ніводзін не падаўся вучыцца далей. Самі, рукамі сваімі, зарабляюць сабе на хлеб, жывуць хоць і сціпла, але па-людску. І за гэта, як кажуць, дзякуй Богу.

І ўсё ж не-не дый зашчыміць у мяне, бацькі, унутры. І ўсё ад таго, што не асабліва хвалюе маіх сыноў тое, што адбываецца на Беларусі. Раўнадушныя яны да роднай мовы, да справы адраджэння Бацькаўшчыны. Хто ведае, мо перш за ўсё гэта маё асабістае ўпушчэнне. Хаця, несумненна, адыгралі тут сваю ролю і школа, і вуліца, і шмат што яшчэ.

Спадзяваўся на меншага, падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі прыцягваў яго да распаўсюджвання ўлётак у падтрымку кандыдата ў прэзідэнты ад БНФ Зянона Пазьняка, радаваўся апантанасці свайго малодшага, з якой ён разносіў па паштовых скрынках тыя ўлёткі. Але прайшоў нейкі час — і ахаладзеў хлопец, "пагруз" у сваіх аўдыё- і відэакасетах, замкнуўся ў гэтым вузкім свеце музыкі і кіно.

Я не супраць такога ягонага захаплення, але шчыра прызнаюся, што хацелася б нечага большага, больш важкага, грамадска значнага ў справах і ўчынках малодшага сына. І тут я праводжу паралель паміж ім, старэйшымі яго братамі і тымі хлопцамі, чые імёны сёння на вуснах кожнага дэмакратычна настроенага беларуса. Канечне ж, я маю на ўвазе маладафронтаўцаў Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Паўла Севярынца, іхніх аднадумцаў, хто, адстойваючы свае перакананні, выходзіў і выходзіць на вуліцы і плошчы з бел-чырвона-белымі сцягамі ў руках, і хто, не раздумваючы, ахвяруе сабою дзеля сапраўднай незалежнасці і росквіту Бацькаўшчыны. Як я хацеў бы бачыць сваіх сыноў у адных шэрагах з гэтымі юнымі, але па-даросламу мужнымі барацьбітамі за праўду і "залацісты, ясны дзень" нашай шматпакутнай Беларусі.

Так, шмат што давялося паспытаць у міліцэйскіх пастарунках гэтым юнакам, як і шмат прыйшлося перажыць іхнім бацькам. Але любая святая, высакародная справа патрабуе ахвярнасці і ахвяраў. Гэта даўно даказаная ісціна, і яна павінна дапамагаць, дый, я перакананы, дапамагае, пераносіць і хлопцам з "Маладога фронту", і бацькам іх самыя цяжкія выпрабаванні.

Я вельмі зайздрошчу бацькам Вадзіма Лабковіча, Паўла Севярынца, Аляксея Шыдлоўскага. У іх ёсць усе падставы ганарыцца сваімі сынамі. А з цягам часу, калі ўсё зменіцца ў лепшы бок, яны, гэтыя юныя героі, стануць гонарам беларускай нацыі.

Нельга жыць, думаючы толькі пра ежу, адзенне, іншыя матэрыяльныя даброты, калі пагражае небяспека незалежнасці нашай краіны, калі наўмысна скажаецца або замоўчваецца яе сапраўдная гісторыя, калі ізноў у заняпадзе родная беларуская мова. Жыць, не бачачы гэтага і не трывожачыся за заўтрашні дзень Беларусі, не тое што безадказна, але і злачынна. І прыйдзе час, калі нашы ўнукі, праўнукі абавязкова спытаюць у нас, якой пазіцыі мы прытрымліваемся напрыканцы XX стагоддзя, калі вырашаўся лёс Бацькаўшчыны, з кім былі і што асабіста зрабілі дзеля перамогі дэмакратыі і справядлівасці на Беларусі.

Надыдзе такі час, несумненна надыдзе! І будуць лунаць у дні вялікіх, народжаных новым часам нацыянальных святаў накшталт 25 сакавіка бел-чырвона-белыя сцягі, радуючы сваімі светлымі, прасякнутымі аптымізмам колерамі і вока, і душу, а вершнік на ўздыбленым кані, як і сотні гадоў назад, будзе напамінаць нам аб тым, што кожны з нас, беларусаў, павінен быць у любы момант гатовы абараніць сваю Беларусь. Беларусь дэмакратычную, прававую, цывілізаваную, еўрапейскую.

Так будзе. Дзеля гэтага і трэба жыць. Бог падарыў нам з жонкай на старасць маленькую дачушку Юльку, якой пайшоў толькі трэці гадок. Ужо ўнукі нашы старэйшыя за нашу дачку. Я веру, што ёй, двухгадовай Юльцы, суджана жыць у новай Беларусі. І я радуюся гэтаму, я спакойны за сваю дачку, як спакойны за лепшы лёс сваёй Бацькаўшчыны. Праўда пераможа. Знікнуць у нябыт цёмныя сілы, і Беларусь паўстане з каленяў, гучна заявіць пра сябе на ўвесь белы свет сваім свабодалюбствам і памкненнем жыць дастойна сярод дастойных. Не будзе тады ў беларусаў межаў гонару за сваю мінуўшчыну, за прыгожую мову, за прыналежнасць да беларускай нацыі. Жыве Беларусь!

**Мікалай РЫМАЧ, жыхар г.Івацэвічы.**

